№ 59 (641)
Субота, 3 красавіка 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



- *Да неадкладнага вызвалення былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра і пачатку дыялога з апазіцыяй заклікаюць беларускія ўлады афіцыйны Вашынгтон, грамадскія арганізацыі.*
- *Нашы футбалісты на роўных сыгралі з трохкратным чэмпіёнам свету — зборнай Італіі. Малайцы!*
- *Заўтра каталікі будуць вітаць адзін аднаго словамі "Хрыстос Уваскрос! Ваісціну Уваскрос!". Яны святкуюць Вялікдзень — дзень уваскрашэння для новага жыцця.*

## Дзяржддэпартамент ЗША выказаў сур'ёзную заклапочанасць у сувязі з затрыманнем беларускімі ўладамі Міхаіла Чыгіра

Да неадкладнага вызвалення былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра і да пачатку дыялога з апазіцыяй і іншымі сацыяльнымі групамі, якія выступаюць у абарону дэмакратыі і правоў чалавека заклікаў беларускія ўлады афіцыйны Вашынгтон. У заяве прэс-сакратара Дзяржддэпартамента ЗША Джэймса Рубіна адзначаецца, што "арышт М.Чыгіра ў кантэксце ўзрастаючага запалохвання прыхільнікаў апазіцыі ў апошнія тыдні накіраваны, як уяўляецца, на ўдушэнне незалежнай думкі і дзеянняў у Беларусі". Спадар Рубін выказаў "глыбокую занепакоенасць развіццём падзеяў у Беларусі". З гэтай нагоды Дзяржддэпартамент заклікаў кіраўніцтва рэспублікі "прытрымлівацца сваіх міжнародных абавязацельстваў, уключаючы павагу да свабоды самавыяўлення, прынцыпаў АБСЕ і іншых міжнародна прызнаных правоў". Пачатак дыялога ўладаў Беларусі з апазіцыяй па выхадзе з канстытуцыйнага крызісу, які стаў вынікам рэферэндуму 1996 года, змог бы палепшыць палітычную сітуацыю ў краіне, заявіў Джэймс Рубін.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

## Сацыял-дэмакраты пацвярджаюць сваю падтрымку Міхаілу Чыгіру

### Заява

### Выканаўчага Бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады)

Выканаўчае Бюро Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады) ад імя ўсіх сацыял-дэмакратаў выказвае рашучы пратэст супраць незаконнага затрымання і ўтрымлівання пад вартай кандыдата на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра.

М.Чыгір затрыманы па абвінавачванні ў нейкіх злачынствах, якія ён нібыта ўчыніў яшчэ да прызначэння на пасаду прэм'ер-міністра Беларусі. Мы лічым гэтае абвінавачванне абсурдным і расцэньваем затрыманне М.Чыгіра як працяг і новую праяву пераследу рэжымам дэмакратычных сіл у краіне. Лукашэнка і яго каманда баяцца М.Чыгіра. Іх палітыка накіраваная на зрыў прэзідэнцкіх выбараў, на ўвекавечванне аднаасобнай улады Лукашэнкі.

БСДП патрабуе неадкладнага вызвалення М.Чыгіра, усіх палітычных вязняў, спынення палітычных рэпрэсій і запалохванняў дзеячаў апазіцыі.

БСДП патрабуе няўхільнага выканання законаў, якія абавязваюць выканаўчую ўладу забяспечыць усе належныя ўмовы для правядзення свабодных і справядлівых выбараў Прэзідэнта 16 мая 1999 года.

БСДП была першай партыяй, якая падтрымала жаданне М.Чыгіра балатавацца кандыдатам на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Члены і тэрытарыяльныя арганізацыі, партыі ўнеслі важкі ўклад у збор подпісаў за вылучэнне М.Чыгіра кандыдатам на гэтую пасаду.

БСДП пацвярджае сваю падтрымку М.Чыгіру ў якасці кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы і заяўляе, што будзе выкарыстоўваць усе свае магчымасці для арганізацыі прэзідэнцкіх выбараў, вядзення тлумачальнай працы сярод насельніцтва на карысць кандыдатуры М.Чыгіра і агітаваць грамадзян прыйсці на выбары 16 мая 1999 года.

## Исполнительный директор Международной лиги прав человека Кэти Фицпатрик обратилась к Генеральному прокурору Беларуси

Исполнительный директор Международной лиги прав человека Кэти Фицпатрик направила 1 апреля в адрес Генерального прокурора и президента Беларуси письмо с просьбой об освобождении Михаила Чигиря. В нем, в частности, говорится:

"Уважаемый Господин Генеральный прокурор!

Международная лига прав человека, международная неправительственная правозащитная организация, имеющая статус консультанта при Экономическом и Социальном Совете ООН, высказывает свою озабоченность в связи с обвинениями, выдвинутыми против Михаила Чигиря, бывшего премьер-министра Республики Беларусь.

Михаил Чигирь был задержан 30 марта 1999 года первоначально для дачи показаний по делу, возбужденному по статье 91 Уголовного Кодекса Республики Беларусь (хищение в особо крупных размерах). Однако, по нашим сведениям, уже на следующий день уголовное дело было переквалифицировано на статью 167 УК РБ — халатность. Г-н Чигирь отказался признать вину по какому-либо пункту обвинения.

Международная лига прав человека высказывает опасение, что политическая позиция г-на Чигиря является реальным основанием для его ареста. В течение одного дня с момента задержания следствие успело изменить обвинение, по которому он привлекается к ответственности, на гораздо более "мягкую" статью Уголовного Кодекса. Г-н Чигирь является видным общественным и политическим деятелем Беларуси, открыто критикует белорусские власти в средствах массовой информации. Эти виды деятельности полностью соответствуют стандартам международного права и находятся под защитой Всемирной Декларации прав человека и других применимых правовых норм. По заявлению самого г-на Чигиря, на него неоднократно оказывалось давление, применялись угрозы.

Принимая во внимание факт, что обвинения в отношении г-на Чигиря касаются хозяйственных преступлений и не связаны с серьезным преступлением против личности, Международная лига прав человека просит освобождения г-на Чигиря из-под стражи с последующим судебным разбирательством в соответствии с законодательством Республики Беларусь и доступом к адвокатам. Благодарю Вас за внимание и ожидаю Вашего ответа".

**Искренне Ваша, Кэтрин А.Фицпатрик.**

**Пресс-центр Хартии'97.**

## На тэрмінале "Саваўта-Брэст" уведзены новы збор — за карыстанне аб'ектамі інфраструктуры

Па распараджэнні Брэсцкага аблвыканкама з 1 красавіка на тэрмінале "Саваўта-Брэст", які абслугоўвае грузавыя аўтамабілі, што выязджаюць за мяжу, уведзены новы збор — за карыстанне аб'ектамі інфраструктуры. Згодна з дакументам, за знаходжанне на тэрыторыі тэрмінала парожняга аўтамабіля будзе брацца 5 долараў ЗША ці 10 нямецкіх марак, з гружоных аўтамабіляў — 10 долараў ЗША ці 20 нямецкіх марак. Свае стаўкі прадугледжаны для аўтобусаў і іншых транспартных сродкаў, якія перасякаюць мяжу праз тэрмінал. Плаціць давядзецца не толькі транзітнікам-чужаземцам, але і рэзідэнтам Беларусі, праўда, — розныя сумы.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**Са святам!**

## "Ён Уваскрос. Ён дзесь між намі..."



Заканчваецца другое тысячагоддзе з тае пары, калі нарадзіўся і хадзіў па зямлі іерусалімскай Ісус Хрыстос. Трыццаць год было яму, калі пачаў ён сваё служэнне людзям. Толькі тры гады прапаведаваў Хрыстос Евангелле на Зямлі. Толькі некалькі тысяч людзей бачылі і чулі яго, толькі 12 апосталаў абраў ён сваімі вучнямі. Але вестка аб ім і яго жыцці разнеслася па ўсёй Зямлі. Словы, якія ён сказаў некалькім сваім вучням, гучаць са старонак вечна жывой кнігі — Бібліі.

І вось прайшло-праляцела 2000 гадоў з дня яго нараджэння. Кожную вясну веруючыя людзі адзначаюць асобнае свята — свята Вялікдзень, свята светлага Хрыстова Уваскрэсення. Прачынаецца прырода ад зімовага сну, растае снег, усё ярчэй і цяплей грэе сонца, набухаюць першыя пупышкі на вярбе, прылятаюць з выраю птушкі, — усё сведчыць аб непарыўнасці жыцця. І таксама як прыход вясны даказвае, што смерць не ўладна над жыццём, так і Уваскрэсенне Хрыстова сведчыць аб перамозе над смерцю.

Сваёй смерцю Хрыстос заплаціў за ўсе людскія грахі. Смерць Хрыста ўсцерагла людзей ад кары за грахі, ачысціла ад іх. Сваім жа Уваскрэсеннем Ісус Хрыстос паказаў, што і чалавек можа ўваскрэснуць для новага жыцця ў тым выпадку, калі ён раскаецца ў сваіх грахах, калі паверыць у тое, што Хрыстос жыў на Зямлі, быў укрыжаваны і памёр за грахі людзей, што Ён быў пахаваны і Уваскрос на трэці дзень па Пісанні. І быў гэты дзень — Вялікдзень. Таму хрысціяне ўсёй планеты так любяць і святкуюць гэты дзень — дзень уваскрэсення для новага жыцця. У гэты дзень усе вітаюць адзін аднаго словамі "Хрыстос Уваскрос! Ваісціну Уваскрос!".

Са святам Вас!

**Таццяна ДЗІНДЗІКАВА.**
*г.Бабруйск.*

**Демократия по-белорусски**

## Первоапрельские игры в ходе президентской кампании

Информация об обыске в штаб-квартире Михаила Чигиря, увы, не была первоапрельским розыгрышем. Представители правоохранительных органов с 8 утра опечатали вход в офис и поджидали доверенных лиц Михаила Николаевича. Ожидание длилось целый день. Потому как Юлия Чигирь, начавшая избирательную кампанию вместо арестованного мужа, уже как адвокат кандидата в президенты, занята была юридическими вопросами.

В это же утро "цивильные" лица блокировали и квартиру Чигирей. Но, как оказалось, они проспали в самом прямом смысле этого слова. В 8 утра, когда "штатские" в темных очках на машинах с тонированными стеклами подъехали к дому Чигиря, Юлия Станиславовна давно уже занималась делами за пределами квартиры.

Связавшись с начальником следственного комитета МВД полковником Лавренюком, занятым по высочайшему указанию поисками доказательств совершения Михаилом Николаевичем некоего преступления, Юлия Чигирь обратилась к нему с предложением о своем участии в деле в качестве адвоката и подтвердила готовность открыть офис, квартиру и другие необходимые помещения для проведения следственных действий.

Увы, следствие пошло по нецивилизованному пути. Задержав в городе младшего сына Чигирей, представители спецорганов заставили его открыть квартиру, провели обыск, изъяли сейф, компьютер и увезли сына на беседу (допрос). Последнее очень уж напоминает 30-е годы в СССР, когда детям "врагов народа" нельзя было выйти на улицу.

Столь ретивая деятельность следствия, по всей видимости, вызвана тем, что накануне Юлия Чигирь пообещала предать гласности известные ей факты нарушения закона главой государства, заявив при этом о наличии у нее подтверждающих документов. И потому можно предположить, что сыщики ринулись на поиски "чемоданов" с компроматом на президента.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**



Пр. Кірылы, Фамы, Фёдара, Якава.
К. Панкрата, Рышарда.

4 красавіка — ДЗЕНЬ ГЕОЛАГА

КРАСАВІК
**3**
'99 СУБОТА

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 6.39 | Поўня |
| Захад 19.50 | 1 красавіка |
| Даўж. дня 13.11 | Захад 8.51 |
| | Усход 23.34 |

'99 КРАСАВІК 4
НЯДЗЕЛЯ

*ВЯЛІКДЗЕНЬ па календары каталіцкай канфесіі*

Пр. Лідзіі, Абрама, Амфілохія, Васіля, Генадзя, Дзмітрыя, Нікана.
К. Ірэны, Вінцэнта.

КРАСАВІК
**5**
'99 ПАНЯДЗЕЛАК

| ☉ | ○ |
|---|---|
| Усход 6.34 | Поўня |
| Захад 19.53 | 1 красавіка |
| Даўж. дня 13.19 | Усход 0.38 |
| | Захад 9.40 |

**Спорт**

## С Италией — на равных!



Еще вчера об этом можно было только мечтать. Взять очко у гранда мирового футбола, трехкратного чемпиона мира сборной Италии да еще на их поле! В это трудно поверить, но это так. Из испытания итальянской командой белорусы вышли для себя с честью. После исторической победы национальной сборной Беларуси над Голландией в 1995 году ничья 1:1 со "Скуадрой адзуррой", пожалуй, самое громкое событие в истории суверенного белорусского футбола.

Перед матчем с фаворитом группы тренерскому штабу белорусов пришлось приложить немало усилий, чтобы вывести игроков из того психологического штопора, в котором оказалась команда после обидного поражения в игре со Швейцарией. И это нашим наставникам удалось. Действия белорусов на анконском "Стадио дель Конеро" были как никогда уверенными и осмысленными, и какого-то намека на дрожь в коленках перед громкими именами Мальдини, Роберта Баджо, Индзаги, Панучии и прочих звезд итальянского футбола не было и в помине.

За те несколько дней, что прошли после поединка со швейцарцами, игра наших заметно преобразилась. В Анконе они действовали широко, пытаясь пробиться к воротам Буффона не только по центру, как в Минске, но и с активным подключением флангов, почему-то преданных забвению в игре дома. И это, к слову, дало свои плоды. Именно после флангового прохода и навеса в штрафную Максима Ромащенко счет в матче открыл Валентин Белькевич.

Надежно и слаженно, в отличие от матча со швейцарцами, выглядела наша задняя линия. Единственную грубую ошибку оборона допустила в эпизоде, приведшем на 31-й минуте к пенальти в ворота Тумиловича, реализованный Индзаги. Геннадий, к слову, снова отстоял весьма уверенно, своей импульсивной манерой игры чем-то напомнив знаменитого парагвайца Чилаверта. Словно окропленный живой водой, "ожил" в Анконе невыразительно игравший дома Владимир Маковский. В организации атак активно преуспела наша средняя линия, где особенно выделялись Валентин Белькевич и Максим Ромащенко. Они и сотворили этот исторический гол. Одним словом, получалось у наших парней очень многое. Надо было видеть, как белорусские футболисты ставили в тупик хваленую итальянскую оборону во главе с самим Паоло Мальдини.

К слову, в этом статусе наша команда и закончила первый круг отборочного цикла чемпионата Европы. Его итогом стали два очка, взятых у титулованных соперников (на старте турнира была еще и ничья с Данией), и последнее место, которое белорусы делят с датчанами. Следующий поединок команда Михаила Вергеенко проведет 5 июня против датской команды.

В другом матче 1-й отборочной группы Швейцария победила команду Уэльса — 2:0.

Приводим положение команд после первого круга: 1. Италия — 10 очков; 2. Швейцария — 7; 3. Уэльс — 6; Дания, Беларусь — по 2.

К слову, игра между молодежными сборными Италии и Беларуси завершилась победой хозяев со счетом 4:1 (единственный гол на счету Максима Разумова).

**Дмитрий ЕРМАК.**

## Усе фільмы Андрэя Таркоўскага

Выдатнаму кінарэжысёру Андрэю Таркоўскаму 4 красавіка споўнілася б 67 гадоў. Памяці майстра будзе прысвечана рэтраспектыва "Настальгія па духоўнасці", якую з 5 па 11 красавіка пакажа сталічны кінатэатр "Піянер". Гэтая праграма — цудоўны падарунак паклоннікам творчасці Андрэя Таркоўскага: у яе ўвайшлі ўсе поўнаметражныя фільмы, створаныя рэжысёрам.

Як паведамілі карэспандэнту ў дырэкцыі кінатэатра, адкрые рэтраспектыву кінастужка "Іванава дзяцінства" — гэтую трагічную кінапаэму Андрэй Таркоўскі зняў яшчэ ў 1962 годзе. Праграму прадоўжаць вядомыя "Андрэй Рублёў" і "Салярыс", а 8 красавіка гледачы змогуць убачыць фільм "Люстэрка" — яго рэжысёр лічыў аўтабіяграфічным. Затым на вялікім экране будуць паказаны "Сталкер" і "Настальгія" — яны ўвайшлі ў залаты фонд сусветнага кіно. А завершыцца рэтраспектыва апошняй работай Андрэя Таркоўскага — карцінай "Ахвярапрынашэнне", якую ён зняў ужо жывучы далёка ад радзімы.

**Эдуард ПІВАВАР.**

